**Некалькі майстэрняу** для безработных мае адчыніць Цэнтральнае бюро профэсыянальных саюзау на грошы, выдадзеные для гэтай мэты амэрыканскай місіяй. У першую чаргу будзе адчынена майстэрня для табачнікау.

**Рад новых фабрычных прадпрыімствау** маець быць адчынены у хуткім часе Варшаускімі прамысьнікамі. Некаторые буйные прадпрыімцы выслалі у Беларусь сваіх прадстаунікоу дзеля штуд'яваньня краю і агляду яго багацтвау у мэтах іх эксплоатацыі.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау, Менск.